

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE US POSTAGE PAID ADA, MI Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(34) Кастрычнік 1996 October Год выд. 4


## тав. А. Лукашэнка намагаецца зрабіць з Беларусі ‘губерню’ Расеі... ці дапусьцяць да гэтага беларусы?

ВЫБАРЫ - 96

## Лепш зрабіць больш, чым потым шкадаваць

Пераканаңы, што рашэнне Сойма БНФ не ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі і рэферэндуме *«пакуль не будуць створаны ўмовы...»*, мякка кажучы, памылковае. Па-першае, ніхто не будзе «стварацъ умовы» для Народнага фронта — за «ўмовы» трэба змагацца. Па-другое — гэтае рашэнне ўбівае клін у антылукашэнкаўскі палітычны фронт. Акрамя таго, яно супярэчыць як раней прынятым рашэнням, так і статутным мэтам Фронту, а таксама і элементарнай логіцы.

Нагадаю, што 14 ліпеня 1996 г. Канферэнцыя БНФ прыняла рэзалюцыю, у якой сказана: *«Разумеючы, што адзіным шляхам да рэалізацыі мэтаў нацыянальна-дэмакратычнага руху з'яўляецца заваяванне палітычнай улады, БНФ распачынае актыўную падрыхтоўку да ўдзелу ў восеньскіх давыбарах у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы прадстаўнічай улады...»*. Не трэба тлумачыць, што Канферэнцыя вышэй за Сойм, і яе рашэнні абавязковыя для ўсіх франтаўцаў.

«Паміраць збірайся, а жыта сей» — гаворыць беларуская прымаўка. Незалежна ад таго, 7 лістапада ці 24 лістапада адбудзецца рэферэндум, незалежна ад таго, адбудуцца выбары ці не, неабходна дзейнічаць так, каб не гаварыць потым: «Мы гэта не зрабілі таму, што думалі...». Лепш зрабіць лішнюю працу, чым потым шкадаваць.

Размовы, што Лукашэнка выбараў не дапусціць — толькі размовы, якія падыгрываюць Лукашэнку. Між тым дзейнічае Закон, згодна з якім **з 15 верасня пачынаецца вылучэнне кандыдатаў, а 19 верасня (!) заканчваецца фарміраванне ініцыятыўных групаў па вылучэнні шляхам збору подпісаў.** Да якога часу «адкладзена» канчатковае рашэнне Сойму БНФ аб удзеле ў выбарах? Неабходна неадкладна сфарміраваць ініцыятыўныя групы і зарэгістраваць іх у выбарчых камісіях, а ўжо потым «думаць».

Дадам яшчэ, што элементарныя разлікі паказваюць: спроба байкатаваць выбары-рэферэндум дае мінімальны шанц выйграць рэферэндум **юрыдычна**, але гарантавана вядзе да пройгрышу **практычна**. Між тым дастаткова прывесці на ўчасткі для галасавання 30% сваіх прыхільнікаў (што цалкам рэальна ва ўмовах шырокага антылукашэнкаўскага фронту, які склаўся дзякуючы дзейнасці «круглага стала»), каб праваліць канстытуцыю Лукашэнкі не толькі юрыдычна, але і практычна.

**Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ**

*"Свабода"*





**Спадарыня Іна РЫТАР-КАХАНОЎСКАЯ —** колішняя навуковая працаўніца, настаўніца, аўтар кнігі "У пошуках праўды" ды іншых літаратурна-мастацкіх твораў, культурная і грамадзкая дзеячка і вялікая патрыётка беларускага народу.

**Дарагая Іна! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**

## Чарговы рэферэндум

*"Ніва"*

Ужо некалькі месяцаў у Беларусі гаворыцца аб правядзенні ў лістападзе г.г. чарговага рэферэндуму, які датычыць будзе зменаў канстытуцыйнага парадку ў дзяржаве. Ініцыятарам рэферэндуму з'яўляецца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які гэтым разам імкнецца атрымаць „ад народа" згоду на сістэму, званую некалі „самадзяржаўем". Фармальна прапануе ён толькі ўвесці ў канстытуцыю змены, якія дазволяць яму вызначаць асноўную частку парламента і Канстытуцыйнага суда. Такім чынам прэзідэнт кантраляваў бы выканаўчую, заканадаўчую і судовую улады ў краіне. Ад Вярхоўнага Савета запатрабаваў ён адабрэння тэрміну рэферэндуму, прапанаванага ім на 7 лістапада г.г.

6 верасня Аляксандр Лукашэнка асабіста з'явіўся ў Вярхоўным Савеце, сярод дэпутатаў выбраных паводле яготых палітычных патрабаванняў і пры дапамозе дзяржаўнага прапагандысцкага апарату. Зала амаль без воплескаў прывітала прэзідэнта, які зразу заняў месца на высокай трыбуне. Паўтары гадзіны прадстаўляў ён новы праект канстытуцыі, які ў сапраўднасці быў спалучэннем галоўных ідэй савецкага заканадаўства з 1936 г. і італьянскага з 1929 г. Прытым даказваў ён, што падобныя асноўныя законы маюць сёння Францыя, Італія і Злучаныя Штаты Амерыкі. Але паколькі вядома, што пра канстытуцыйны парадак краіны гэтым разам маюць выражаць пенсіянеры, калгаснікі, наменклатура і дэмаралізаваны рабочы клас, прэзідэнт заявіў, што гаспадарка Беларусі пастаянна развіваецца, а людзям цяжка жывецца з прычыны таго, што навесці адпаведны сацыяльны парадак прэзідэнту перашкаджаюць „определённые органы верховной власти". Таму менавіта прэзідэнт „обращается к народу" з пытаннем: ці хоча ён лепей жыць? А калі хоча лепей жыць, тады: ці пагаджаецца на змены ў канстытуцыі? Можна спадзявацца, што пры амаль поўнай манаполіі прэзідэнта на інфармацыю, нявялікі працэнт грамадства будзе ведаць, чаму ў сапраўднасці прысвечаны рэферэндум.

Пасля выступлення Лукашэнкі дэпутаты маглі ставіць яму „вопросы". На дзесяць пастаўленых пытанняў у сапраўднасці не адказаў ён на ніводнае, а дэпутатаў, якія звярнулі ўвагу на хлусліваць і крывадушнасць выступлення галавы дзяржавы, проста злаяў як нейкіх падданых.

Вярхоўны Савет пасля кароткай дыскусіі адкінуў прапанову прэзідэнта правесці рэферэндум 7 лістапада і запрапанаваў іншы тэрмін — 24 лістапада, дакідаючы да прэзідэнцкіх пытанняў свае, між іншым: ці патрэбны Беларусі інстытут прэзідэнцтва?

Тое, што пасля адбывалася ў беларускім тэлебачанні, перасягнула ўсе межы бессаромнасці. Пра маральнасць лукашэнкаўскіх журналістаў і каментатараў нават не варта згадваць. Дыктар дзяржаўнага тэлебачання Іна Хрушчова нават камуністаў абвінавацiла ў супрацоўніцтве з БНФ у развале беларускай дзяржаўнасці і эканомікі. Але бесканкурэнтным аказаўся галоўны лукашэнкаўскі ідэолаг, палітрук палкоўнік Уладзімір Замяталін. Сам доктар Гебельс у прысутнасці „господина" Замяталіна напэўна набавіўся б комлексу непаўнацэннасці. Дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, — заявіў палкоўнік, — вінаватыя ў развале Савецкага Саюза, а ў выніку — беларускай гаспадаркі. Сучасны Вярхоўны Савет Беларусі, — прадаўжаў Замяталін, — далей працягвае працэс разбурання беларускай дзяржаўнасці і эканомікі, перашкаджае прэзідэнту ашчаслівіць беларускі народ. Здаецца, не было злачынства, у якім палкоўнік Замяталін не абвінаваціў бы дэпутатаў.

Яшчэ 6 верасня лукашэнкаўскае тэлебачанне заявіла, што „глава государства" не будзе больш шукаць паразумення з парламентам. На наступны дзень яшчэ пару разоў перадавалася выступленне прэзідэнта, а нейкія „вучоныя аўтарытэты", быццам бы выцягнутыя з маразільніка прапагандысты трыццатых гадоў, паўтаралі засакрэчаны для большасці грамадзян тэрмін „дзяржаўны пераварот". Яго аўтарамі мелі быць лідэры палітычных партый, ад камуністаў да лібералаў, якія пераканалі дэпутатаў адкінуць прэзідэнцкую версію рэферэндуму. Вярхоўнаму Савету лукашэнкаўскія прапагандысты ставілі закід парушэння канстытуцыі і такім чынам, — даказвалі, — прэзідэнт атрымаў усе правы распусціць парламент. Хаця канстытуцыя Беларусі не прадбачвае такой магчымасці, а наадварот, парламент можа адклікаць прэзідэнта, гэта не перашкаджала рэжымным юрыстам апраўдваць сцэнарый такога развіцця сітуацыі. Спасылаліся яны на вынікі рэферэндуму ад 15 мая 1995 г., калі „народ высказался в поддержку президента".

Быццам бы няма ў гэтым нічога новага — усе еўрапейскія дыктатуры стваралiся падобным шляхам, заўсёды спасылаючыся на „волю народа". Выглядае на тое, што беларускі народ чакае новы перыяд палітычнай дэмаралізацыі. (рэд.)

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пpускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *Лукашэнка павучае...*

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з выбранымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Каля васьмідзесяці парламентарыяў, якія прыйшлі ў рэзідэнцыю прэзідэнта, выслухалі меркаванні і погляды кіраўніка дзяржавы на палітычныя і эканамічныя працэсы ў краіне. Узнімаліся таксама пытанні рэферэндуму, праекта канстытуцыі і лёсу цяперашняга парламента. Аляксандр Лукашэнка запэўніў дэпутатаў, што калі на рэферэндуме будзе прыняты прапанаваны ім праект канстытуцыі, то ніякіх выбараў у новы парламент не будзе, а Нацыянальны Сход сфарміруецца з ліку сённяшніх парламентарыяў.

## Прэзыдэнцкая няўдача

Вярхоўны Савет 6 верасня (ужо пасля нарады часткі дэпутатаў у прэзідэнта) прыняў пастанову, якая дату рэферэндуму назначыла не на 7 лістапада — як гэтага хацеў Аляксандр Лукашэнка — але на 24 лістапада. У гэты дзень адбудуцца таксама давыбары ў парламент. Да прапанаваных прэзідэнтам пытанняў і ягонага праекта канстытуцыі Вярхоўны Савет дадаў свае пытанні (аб выбарах выканаўчых органаў улады, аб выплаце зарплаты, пенсій і стыпендый, аб бяз'ядзернай дзяржаве і іншыя) ды прапанаваны камуністамі і аграрыямі праект канстытуцыі, які прадугледжвае скасаванне інстытута прэзідэнцтва. Прапановы гэтых груповак, якіх падтрымоўвае значная частка выбаршчыкаў, могуць перашкодзіць планам узмацнення пазіцыі прэзідэнта.

## *«БЕЛАРУСКІ ТЫРАН»*

**Найбольш уплывовая газэта ЗША — і можа ўсяго сьвету — The New York Times, за 31-га жніўня зьмясьціла рэдакцыйны артыкул пад загалоўкам: Беларускі Тыран. Гэты артыкул моцна і балюча ўдарыў па асобе А. Лукашэнкі. Мы ведаем, што нейкім лёсам ці прыпадкам А. Лукашэнку была дадзена магчымасьць стаць прэзыдэнтам сапраўды незалежнае і сувэрэннае краіны, як скажам, Б. Ельцыну ці Л. Кучму. Але Лукашэнка такім лідэрам ня стаў. Ён выбраў свой шлях быць парабкам і нізкапаклоньнікам суседняй дзяржавы. Ён нават дзеля спадобы чужынцам асьмейвае беларускую мову, русыфікуе беларускія школы, прыпыняе і ліквідуе беларускія газэты, чужыніць дзяржаўныя ўстановы і сродкі масавай інфармацыі, прапагуе бясправе і патурае карупцыі; словам стаў звычайным маленькім тыранам-губэрнатарам. Пазыцыя незавідная... Як атрымалася, што прэзыдэнт А. Лукашэнка стаў губэрнатарам — тэма іншая, але факт, што А. Лукашэнка згубіў свой высокі прэстыж і тытул ды стаў асобаю "мнімае велічыні" відавочны і ясны. Кар'еру А. Лукашэнкі будуе яго атачэньне-каманда, падабраная з розных савецка-бальшавіцкіх адстаўных афіцэраў КДБ... ён ім і мусіць быць удзячным за ўсё і ўся...**



## Yes, Mr Lukashenka, if you must

MOSCOW

ANNOUNCING his plan for a constitutional referendum on November 7th, Alexander Lukashenka, president of Belarus, explained last week that he wanted "a vote of confidence". If voters backed proposals to increase his powers and extend his term from five to seven years, he said, he would "continue to pursue the policy I am pursuing at present." But if voters rejected his terms, he declared, "the current president will have another three years of rule in which he can resort to radical reforms similar to those introduced in other republics."

It is hard to imagine a better argument for voting No. Unreconstructed Belarus desperately needs reform at every level. Its economy shrank by 22% in 1994, the year Mr Lukashenka was elected, and by 10% in 1995. In 1996 it has continue to stagger. The IMF has frozen its lending. The World Bank is talking of pulling out. The media have been muzzled and demonstrations banned. Parliament has been pushed rudely to one side, and will be pushed further if Mr Lukashenka succeeds in his other declared aim of blocking by-elections later in November for the seats—one in three—left vacant by low turnout in the latest general election.

But Mr Lukashenka clearly thinks his citizens are more frightened of reform than they are of gradual impoverishment. He believes, too, that they share his view of a union with Russia as the best economic and national-security policy for Belarus. He may be right in his assessment of his countrymen's views: a referendum in 1995 restored Russian as an official language. It is presumably no accident that November 7th, the date which has been fixed for this year's referendum, is also the anniversary of the 1917 Bolshevik revolution in Russia.

If more of Mr Lukashenka, and union with a Russia that has precious little to offer them, turn out to be what Belarussian voters want, the rest of the world will have little choice but to nod its head sadly. It would be worrying strategically only if Belarus's willingness to re-create the Soviet Union encouraged Russia to start pressing a bunch of other countries into joining as well. But there is little sign of that. Russia is too weak, and other countries too sensible.

*Ec-ST*

## Апазіцыя збірае Нацыянальны кангрэс

**Апазіцыйныя сілы збіраюцца правесці Усебеларускі нацыянальны кангрэс у падтрымку Канстытуцыі.**

Падрыхтоўкай кангрэса займаецца аргкамітэт, які ўзначаліў экс-міністр унутраных справаў Ю.Захаранка. Пра гэта было паведамлена на прэс-канферэнцыі, у якой удзельнічалі таксама С.Багданкевіч, А.Бухвостаў, Г.Карпенка і Г.Таразевіч.

Кангрэс плануецца правесці 26 кастрычніка, але месца яго правядзення пакуль не называецца.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



# За «круглым сталом»

«Наша Ніва»

Падзея, што адбылася ў Менску на мінулым тыдні, вы клікала розныя пачуцьці. Сапраўды, калі за «круглы стол» сядаюць БНФ і камуністы, гэта сьведчыць, што сытуацыя ў краіне далёка ня «круглая».

Пасьля вядомага звароту да грамадзтва сямі найбольш значных партыяў краіны, гэты крок выглядае лягічным. Партыі спрабуюць бараніцца ад А.Лукашэнкі, які не зважае на правілы. Падобна на тое, што супрацьстаяньне партыі – прэзыдэнт, парлямэнт –прэзыдэнт набывае новыя рысы. Прынцып «падзяляй і ўладар», які раней выдатна выкарыстоўваў А.Лукашэнка ў барацьбе за ўладу, трымаючы левыя партыі ў стане паўдаверу, здаецца, перастаў спрацоўваць. І камуністы, і аграрыі, пазбавіўшыся ад ілюзіяў, апынуліся за адным сталом з Фронтам і «грамадзянамі».

Прэзыдэнт зрэагаваў адразу. Усчата кампанія расколу камуністаў на прэзыдэнцкіх і непрэзыдэнцкіх, у супрацьвагу аграрыям ствараюцца саветы калхозаў. Як спрацуе прэзыдэнцкі падыход на нізавым партыйным узроўні, пакажа час. Пакуль жа лідар камуністаў Васіль Новікаў вялікай небясьпекі ў раскольных захадах ня бачыць, пра што і заявіў на паседжаньні «круглага стала». Наадварот, партыі знаходзяць паразуменьне паміж сабою. Тым больш, што кіраўнікі трох зь іх: аграрыяў, грамадзянаў і камуністаў складаюць кіраўніцтва Вярхоўнага Савету і маюць немалы досьвед. Адсутнасьць харызматычнай фігуры Зянона Пазьняка аб'ектыўна спрыяе бязбольнаму ўваходжаньню ў гэтую кааліцыю БНФ.

Прэзыдэнт запрашэньне за стол праігнараваў. Зрэшты гэта нікога не зьдзівіла. Бакі даўно вызначылі свае пазыцыі, а інтарэсы выканаўчай улады прадстаўлялі спадары Лінг і Баранкевіч, і выглядалі, трэба сказаць, непераканаўча. Старшыня вэтэранаў пэнсіянэраў Баранкевіч сваімі выказваньнямі пра тое, як прэзыдэнт вядзе бітву за ўраджай, увогуле выклікаў здаровы сьмех у журналістаў.

Што тычыцца самога «круглага стала», то была ў ім пэўная сумбурнасьць. Шырокае прадстаўніцтва вялікай колькасьці палітычных партыяў і недзяржаўных прафсаюзаў (лідар дзяржаўных сп. Ганчарык знайшоў у гэты час больш пільныя справы) урэшце нічога не вызначала. З «сырасьцю» мерапрыемства пагадзіўся і Юры Хадыка, зазначыўшы, праўда, што паступова справа павінна наладзіцца.

Не было вызначана агульнай тактыкі дзеяньняў. Фронт і АГП прапанвалі рыхтавацца да пачатку працэдуры імпічмэнту. Прафэсар Багданкевіч абгрунтоўваў сваю прапанову тым, што «нас так ці інакш разгоняць, выканаўчай уладзе не патрэбныя законы, якія мы прымаем, дык хоць сыйдзем з годнасьцю. Ну зьбяруць нас на стадыёне, дык хоць пасядзім дастойна. Перавыхаваць гэтую асобу нельга». Сп. Булахаў прапанаваў тэрмінова ўнесьці папраўкі ў закон аб рэфэрэндуме і такім чынам паўплываць на сытуацыю. Гаварылі пра дадатковыя пытаньні, якія б нэўтралізавалі тое, што прапануе на плебісцыт А.Лукашэнка. З гэтым пагадзіўся Старшыня ВС Сямён Шарэцкі, сказаўшы, што парлямэнт ня можа адмовіць прэзыдэнту ў рэфэрэндуме, але мусіць выкарыстаць у гэтай сытуацыі свае правы, трымаючыся Канстытуцыі.

Прапанова імпічмэнту, выказаная з-за «круглага стала», выглядае даволі непэрспэктыўна. Пры манаполіі на сродкі масавай інфармацыі любыя рэзкія, канфрантацыйныя дзеяньні апазыцыі А.Лукашэнка, як добры актор, выкарыстоўвае сабе на карысьць. Іншая справа – цягучая гульня з многімі невядомымі. Тут прэзыдэнт з сваім завадным характарам даволі часта трапляе ў нявыгадныя сытуацыі. Тым больш час аб'ектыўна працуе не на яго.

А.Лукашэнка чуйна й лісьліва рэагуе на сілу. Не зьявіўшыся на «круглы стол», ён паказаў, што не баіцца апазыцыі, пакуль у яго ёсьць грошы на тое, каб спраўна падвышаць заробак сілавым структурам. Ён баіцца страціць любоў Масквы і баіцца тых беларускіх палітыкаў, хто мае там уплывовых сяброў. Згадваецца амаль істэрыка прэзыдэнта пасьля сустрэчы С.Шарэцкага з Я.Строевым у Арле. Вельмі красамоўна на гэтым фоне выглядае пазыцыя ня надта сьмелага раней сьпікера і ягонае па сутнасьці старшынство на «круглым стале». Пазыцыя С.Шарэцкага цьвярдзее на вачах. Ён абураецца тым, што міністар замежных справаў Расеі Прымакоў ведае зьмены Канстытуцыі Беларусі, якія Лукашэнка зьбіраецца прапанаваць на рэфэрэндум, раней за яго, Шарэцкага, і парлямэнт.

Між тым Масква якраз і трымае А.Лукашэнку, дзякуючы ягонаму вернападданству, калі нават на свой рэфэрэндум ён просіць «дабро» ў Прымакова. Але пры гэтым Масква мусіць шукаць запасны варыянт для завадного прэзыдэнта і, магчыма, ужо знайшла яго. І скарыстае пры першым чарговым праколе сёньнешняга беларускага фаварыта. Што гэта такое, А.Лукашэнка ведае, бо сам быў запасным пры Кебічы. Прысутнасьць і упэўненасьць С.Шарэцкага разам са сваёй партыяй на «круглым стале», верагодна, і стала галоўным вынікам гэтага «круглага стала».

**Алег Дашкевіч**

# ЧЫРВОНЫ ТЭРОР

## За кожнага камуніста – 1000 закладнікаў

«Наша Ніва»

Сёньня ніхто ўжо ня схільны ідэалізаваць мінуўшчыну, зьвязаную зь дзейнасьцю «жалезнага органа» пралетарскай дыктатуры — Усерасейскай надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй, спэкуляцыяй і службовай злачынсьцю. Што ж уяўляла сабою ВЧК? З кім змагалася і каго карала?

Сьпярша галоўнай задачай ВЧК была барацьба з контррэвалюцыяй і сабатажам. Пасьля да гэтага дадалі-ся барацьба з спэкуляцыяй і службовымі злачынствамі, шпіянажам, падаўленьне контррэвалюцыйных выступаў, бясьпека транспарту і Чырвонай Арміі, ахова дзяржаўнай мяжы. Быццам бы ўсё зразумела. Але на справе далёка ня ўсё было так адназначна і правільна.

Надзвычайная камісія — гэта органы не суда, а «бязьлітаснай расправы», паводле тэрміналёгіі ЦК РКП(б). «Гэта ня сьледчая камісія, ня суд і не трыбунал», — вызначала задачы ЧК сама надзвычайная камісія. «Гэта орган баявы, які дзейнічае на ўнутраным фронце грамадзянскай вайны. Ён ворага ня судзіць, а паражае. Ня літуе, а спапяляе кожнага, хто па той бок барыкадаў».

Няцяжка ўявіць сабе, як мусіла чыніцца гэтая «бязьлітасная расправа», калі замест «мёртвага кодэксу» законаў дзейнічае толькі «рэвалюцыйны досьвед» і «сумленьне». Сумленьне суб'ектыўнае. І досьвед непазьбежна замяняецца самавольствам, якое набывае дзікія формы ў залежнасьці ад складу выканаўцаў.

Тэрор ператвараецца ў крывавую бойку, якая першым часам выклікала абурэньне нават у камуністаў. Фармальнай падставай разьвязваньня чырвонага тэрору стаў замах на Леніна ў канцы жніўня 1918 г.

«Красная газета» пісала пра гэта 1 верасьня: «Сотнямі будзем мы забівать врагов. Пусть будут это тысячи, пусть они захлебнутся в собственной крови. За кровь Ленина и Урицкого пусть прольются потоки крови — больше крови, столько, сколько возможно». «Пролетариат ответит на ранение Ленина так, — пісалі «Известия», — что вся буржуазия содрогнется от ужаса».

Ніхто іншы, як сам Радэк, сьцьвярджаў у «Известиях» у спэцыяльным артыкуле, прысьвечаным чырвонаму тэрору: «За кожнага савецкага работніка, за кожнага правадыра рабочай рэвалюцыі, які загіне ад рукі агента контррэвалюцыі, апошняя расплаціцца дзясяткамі галоваў». Калі мы ўспомнім крылатую фразу Леніна: няхай 90% расейскага народу загіне, абы 10% дажылі да сусьветнай рэвалюцыі, — то зразумеем, у якіх формах малявала ўяўленьне камуністаў гэтую «чырвоную помсту».

Наперадзе ўсіх ішоў сам Усерасейскі Цэнтральны Камітэт, які прыняў 2-га верасьня 1918 г. рэзалюцыю: «за кожны замах на дзеячоў савецкай улады і носьбітаў ідэяў сацыялістычнай рэвалюцыі будуць адказваць усе контррэвалюцыянэры і ўсе натхняльнікі іх».

У поўнай адпаведнасьці з пастановай ЦВК 5 верасьня 1918 г. выдаецца пастанова СНК у выглядзе спэцыяльнае ўхвалы дзейнасьці ЧК, паводле якой «трэба расстрэльваць усіх асобаў, якія маюць дачыненьне да белагвардзейскіх арганізацыяў, змоваў і мяцяжоў». Народны камісар унутраных справаў Пятроўскі разаслаў усім саветам тэлеграфны загад, які стаў гістарычным і паводле сваёй тэрміналёгіі, і паводле сваёй санкцыі ўсякага магчымага самавольства. Гутарка ідзе пра «Загад аб закладніках»:

«Забойства Валадарскага, забойства Ўрыцкага, замах на забойства і раненьне старшыні народных камісараў Уладзіміра Ільіча Леніна... змовы ў тыле нашых армій, адкрытае прызнаньне правых эсэраў і астатняй контррэвалюцыйнай сволачы ў гэтых змовах, і ў той жа час надзвычай нікчэмная колькасьць сур'ёзных рэпрэсій і масавых расстрэлаў белагвардзейцаў і буржуазіі з боку саветаў, паказвае, што, нягледзячы на пастаянныя словы пра масавы тэрор супраць эсэраў, белагвардзейцаў і буржуазіі, гэтага тэрору насамрэч няма.

З такім становішчам павінна быць рашуча скончана. Расхлябанасьці і міндальнічаньню павінен быць неадкладна пакладзены канец. Усе вядомыя мясцовым саветам правыя эсэры павінны быць неадкладна арыштаваныя. З буржуазіі і афіцэрства павінны быць узятыя значныя колькасьці закладнікаў. Пры найменшых спробах супраціву альбо найменшым руху ў белагвардзейскім асяродзьдзі павінен прымацца безумоўна масавы расстрэл...»

Пасьля загаду Пятроўскага наўрад ці варта нават казаць пра «рабочую клясу», якая нібыта выступала мсьціўцам за сваіх правадыроў, і пра гуманнасьць мэтаў. Які сэнс у сапраўднасьці можа мець заява нейкіх камуністаў Віцебскай губэрні, якія патрабавалі 1000 ахвяраў за кожнага савецкага работніка? Або патрабаваньне камуністычнай ячэйкі магілёўскага аутацыянка —за кожнага палеглага расстраляць 100 закладнікаў, за кожнага чырвонага 1000 белых. Альбо заява Камячэйкі Заходняй Вобласьці Надзвычайнай Камісіі, якая патрабавала 13-га верасьня «сьцерці з твару зямлі паскудных забойцаў». Альбо рэзалюцыя чырвонаармейскай часткі аховы Менскай ЧК: «За кожнага нашага камуніста будзем зьнішчаць па сотнях, а за замах на правадыра тысячы і дзясяткі тысяч гэтых паразітаў».

Мы бачым, як па меры аддаленьня ад цэнтру, крыважэрнасьць ЧК павялічваецца — пачалі з соцень, дайшлі да дзясяткаў тысячаў. Дзясяткі тысячаў нашых землякоў, такіх, як Ганна Калмакова, былі раскіданыя па прасторах Расеі. Розныя былі гэта людзі, але яднае іх адно — усе яны былі расстраляныя за «белагвардзейскую змову».

Калі знаёмішся з архіўна-сьледчымі справамі пэрыяду 20-30-х гадоў — усё да болю здаецца знаёмым. Тое ж надакучлівае вытырканьне анкетных «дадзеных», поўная бяздоказнасьць, якая падаецца як выкананьне законнасьці, «прышпільваньне» лёсаў адных людзей да справаў зусім ім невядомых асобаў. І, безумоўна, лютая жорсткасьць і бесчалавечнасьць прысудаў. Факты не пераўпарціш. Менавіта так быў пакладзены пачатак д'ябальскай эстафэце даўжынёю ў некалькі дзясяткаў гадоў.

Аказваецца, што гітлероўцы спрытна пераймалі практыку бальшавікоў — за аднаго немца расстрэльвалі 100 закладнікаў...

# Ці адбудуцца восеннюю выбары ў парламент?

Выступаючы на сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці Гродзенскай вобласці, А.Лукашэнка сказаў: "Я адназначна заяўляю: новых выбараў не будзе". Заява прэзідэнта выклікала ў грамадстве здзіўленне, непаразуменне і неспакой.

Каб высветліць ці ж адбудуцца восенню дадатковыя выбары ў парламент у тых акругах, дзе яшчэ не абраны дэпутаты, я наведаў Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў. Выконваючы абавязкі яе старшыні Аляксандр Аляксандравіч Жук патлумачыў, што не яго справа каменціраваць выступленні прэзідэнта. Што датычыць восеньскіх дадатковых паўторных выбараў у парламент, дык на гэты конт ёсць адпаведная пастанова Вярхоўнага Савета. Прэрагатыва камісіі — прызначыць дату і арганізаваць іх правядзенне згодна з дзеючым заканадаўствам. Дата выбараў камісіяй вызначана. Яны павінны адбыцца 24 лістапада. Цэнтрвыбаркам ужо распачынае падрыхтоўчую работу. Атрыманы спісы партый ад Мінюста. Пачынаем "церабіць" Мінфін, каб перавёў неабходныя сродкі. Як вядома, на правядзенне выбараў выдаткавана 19,6 мільярда рублёў. Праўда, на рахунак Цэнтрвыбаркама не пералічана пакуль ні капейкі.

Я пацікавіўся наконт рэферэндума, які хоча правесці прэзідэнт 8 лістапада. Калі Вярхоўны Савет у верасні адобрыць яго ініцыятыву, ці можна будзе тэхнічна правесці яго за даволі кароткі тэрмін? Аляксандр Аляксандравіч патлумачыў, што калі выдзяляць грошы і кінуць усе сілы ды ўзяцца за справу метадам аўрала, дык можна.

Колькі трэба сродкаў на правядзенне рэферэндума? Кіраўнік Цэнтрвыбаркама назваў — 32 мільярды рублёў. Заўважу, што гэта намнога болей, чым выдзелена на дадатковыя выбары ў парламент.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11
Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

220048, Минск, проспект Машерова, 11
Тел. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

06.09.96 № 03-03/1162

на №

**ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ**

220029, г.Мінск
вул. Чычэрына, 1

Рэдакцыя газеты
"Наша слова"
Галоўнаму рэдактару
Э.В.Ялугіну

Паважаны Эрнэст Васільевіч!

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку паведамляе, што ў 1997 годзе плануецца значнае скарачэнне выдаткаў з дзяржбюджэту на фінансаванне перыёдыкі і, адпаведна, скарачаецца колькасць фінансуемых выданняў.

У Дзяржкамдруку прынята рашэнне аб фінансаванні аб'яднанага выдання, якое можа быць створана на базе газеты "Літаратура і мастацтва" (мяркуецца далучыць газеты "Культура", "Наша слова", "Голас Радзімы" па іх жаданні).

У сувязі з тым, што газета "Наша слова" не прапануецца на фінансаванне ў 1997 годзе як асобнае выданне, просім улічыць гэта пры ўключэнні ў падпісны каталог на 1997 год, а таксама сумесна з заснавальнікамі разгледзець магчымасць аб'яднання з газетай "Літаратура і мастацтва".

Першы намеснік старшыні — З.К.Прыгодзіч

# НАШЫ ЗЕМЛЯКІ Ў СВЕЦЕ

чоных Інстытута гісторыі АН Беларусі, каля 3,5 мільёна асоб беларускай нацыянальнасці пражывае за межамі сваёй гістарычнай радзімы. Першае буйное перасяленне нашых землякоў было адзначана ў канцы XIX стагоддзя, калі ў асноўным па эканамічных меркаваннях толькі ў Сібір перасялілася каля 700 тысяч чалавек і ці не столькі ж асела ў краінах Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі і Еўропы. Праз паўтара дзесятка гадоў яшчэ 120 тысяч з'ехала ад польска-нямецкай акупацыі, дзвюх рэвалюцый у Расіі. Яшчэ 200—250 тысяч пакінулі Беларусь з 1921 па 1939 гг. (у асноўным з заходніх рэгіёнаў). Аднак аснову сучаснай дыяспары складае хваля, выкліканая другой сусветнай вайной. З паўтара мільёна эвакуіраваных на ўсход СССР толькі кожны трэці потым вярнуўся назад. Амаль 700 тысяч жыхароў Беларусі былі гвалтоўна вывезены ў Германію, адкуль не рызыкнулі вярнуцца амаль 240 тысяч чалавек. Пасля вайны (да 1990 г.) змаглі выехаць з Беларусі толькі каля 50 тысяч жыхароў Беларусі, а вось за апошнія пяць гадоў іх зрабілі ўжо 55 тысяч чалавек. Ехалі ў асноўным у Ізраіль, ЗША, Германію, значна менш — у Польшчу, Аўстралію і Канаду. Такая вось карціна складваецца.

**Адам Мальдзіс** (Мінск)

# *ЛЁС АРХІВА Кастуся ЕЗАВІТАВА*

Неяк (дату не зафіксаваў — каюся) у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі праходзіла сустрэча з Паўлінай Мядзёлка. Чалавек-легенда, славутая выканаўца ролі Купалавай Паўлінкі, яна доўга распытвала мяне пра архіўныя пошукі невядомых твораў беларускай літаратуры, а потым таямніча шапнула:

— Вось крыху пацяплее — і мы з вамі паедзем разам у Рыгу, на Рыжскае ўзмор'е, шукаць частку бібліятэкі Езавітава. Усяго адзін чамадан. Але там павінны быць рукапісы нашых класікаў. Проста так, аднаму вам не аддадуць. Таму трэба дзейнічаць праз людзей, з якімі я пазнаёмілася, жывучы ў Латвіі.

А потым я высветліў, што прозвішча беларускага грамадскага дзеяча, пісьменніка, выдаўца, бібліяфіла Канстанціна Езавітава можна згадваць ў друку толькі з адмоўнай характарыстыкай, бо ён адступіў з немцамі ў Германію, фармаваў у Берліне беларускія ўзброеныя сілы, быў арыштаваны контрразведкай, перавезены ў Мінск, дзе і памёр у турэмным шпіталі ад пабояў ці ад "туберкулёзу", як сказана ў афіцыйнай даведцы. Даведаўся пра самае істотнае для мяне: Езавітаў меў аўтографы трох вершаў Максіма Багдановіча, рукапісы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і, магчыма, нават "Скрыпачку беларускую" Францішка Багушэвіча. Рукапісы і рэдкія кнігі маглі быць падабраны рыжскім збіральнікам у час нацысцкай акупацыі ў Мінску, дзе ён часта бываў, — у разгромленай акадэмічнай бібліятэцы.

Аднак Паўліна Мядзёлка неўзабаве памерла, і ў Латвію давялося ехаць мне ў 1980 годзе аднаму. У Рызе далучыліся да пошукаў мастак Вячка Целеш, паэт Пятро Сакол (Масальскі, таксама ўжо нябожчык). Утраіх мы абыйшлі добры кавалак горада, выязджалі на ўзмор'е. Пятро Сакол згадаў, што ў вайну ён адночы быў у кватэры Езавітава, дзе ўсе сцены былі застаўлены кнігамі. Па старой карце мы адшукалі тую вуліцу і дом у Межапарку, з'ездзілі туды — і ўсё надарэмна.

— Ах, як шкада, што мы спазніліся, — сказаў тады паэт. — Некалькі месяцаў назад памерла ў Маскве другая жонка Езавітава — Ларыса Нікіфароўская. Праўда, у вайну яна знаходзілася па нашым баку фронта, але ў 1944 годзе вярнулася ў Рыгу, жыла на той жа кватэры. Дзесьці тут павінен быць пляменнік Нікіфароўскай. Вось толькі забыў яго прозвішча.

Потым па выпадкова знойдзенаму нумару аўтамашыны мы ўстанавілі прозвішча пляменніка — Эйгімс, яго новы адрас. Урэшце знайшлі і яго самога. Ён сказаў, што пасля вайны сапраўды жыў у доме, дзе раней была бібліятэка. І нават болей: калі ён быў у партызанах, яго двойчы скіроўвалі да Езавітава, каб высветліць, ці нельга яго, як аўтарытэтнага для беларусаў чалавека, перацягнуць на свой бок... Ад Эйгімса мы скіраваліся да іншых дзеячаў беларускай дыяспары ў Рызе. Нам цьмяна сказалі (са слоў А.Крэйц), што Езавітаў, здаецца, у 1944 годзе ўсё ж паспеў вывезці частку свайго архіва ў Германію. На гэтым пошукі тады і абарваліся. Пра іх я расказаў у нарысе, які ў 1987 г. увайшоў у кнігу "З літаратуразнаўчых вандраванняў", грунтоўна пашкуматанай "галоўлітаўцамі". Езавітава там, вядома, давялося назваць толькі адным словам — здраднік.

Паступова ўся гісторыя пачала забывацца. Праўда, на нейкі час яе ажывілі ў памяці рэдактарская работа над артыкулам пра К.Езавітава для біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" ды чытанне яго паказанняў, зробленых у мінскай турме і апублікаваных у клііўлендскім "Полацаку". Там жа ў 1993 годзе я натрапіў на ўспаміны Уладзіміра Брылеўскага, дзе былі такія радкі:

"Крыху пазьней [летам 1944 г. — А.М], незадоўга перад сваім выездам у Нямеччыну, Канстантын Езавітаў паказваў мне сваю багатую бібліятэку, у якой было шмат рэдкіх старадрукаў. Кнігі стаялі ў вялікім пакоі на паліцах, ад падлогі аж да столі. Выязджаючы з Рыгі, Канстантын Езавітаў здолеў даволі шмат зь іх забраць з сабой.

У Нямеччыне, калі ён быў цяжка хворы (я чуў, што ён быў ранены падчас бамбардаваньня), кнігамі заапекаваўся адзін зь беларускіх дзеячоў Аляксей Сянькевіч, які і прывёз іх з сабой у ЗША. На жаль, бясцэнныя кнігі Канстантына Езавітава і па сёньняшні дзень захаваны ад беларускага грамадзтва і не выкарыстоўваюцца" ("Полацак". 1993. № 6. С. 42).

А ў маі месяцы гэтага года на маё імя нечакана прыйшоў ліст з Вільнюса ад настаўніцы Леакадзіі Мілаш. Вось яго тэкст (з невялікімі скарачэннямі):

"Перачытвала Вашы кнігі "Астравеччына, край дарагі", "Восень пасярод вясны". А зараз чытаю "З літаратуразнаўчых вандраванняў". Як жа Вы маглі напісаць такое, што Кастусь Езавітаў здраднік, што ён уцякаў ад нашай арміі і г.д. (стар. 74–75)?

Кастусь Езавітаў меў добрую бібліятэку. Усе сцены пакоя, які ён займаў, былі занятыя паліцамі з кнігамі. А архіў К.Езавітава вывез за мяжу мой добра знаёмы чалавек, ён жыве ў Літве, недалека ад мяне. Рызыкуючы сваім жыццём, ён прыехаў у Рыгу ў час вайны, каб забраць самае каштоўнае [...]. А пасля вайны савецкія чэкісты, ад якіх уцякаў К.Езавітаў, арыштавалі і таго, хто збярог каштоўнасці для нашчадкаў, правёў у сталінскіх кратах амаль 10 гадоў. Цяпер гэтаму чалавеку за 70 гадоў, не вельмі добра сябе адчувае, гады перажытыя бяруць сваё. Ён мне шмат распавядаў пра К.Езавітава [...]."

Я тут жа адпісаў на ліст з просьбай расшыфраваць прозвішча "добра знаёмага чалавека", запісаць яго ўспаміны для "Кантактаў і дыялогаў", захаваць іх для гісторыі. Праз два тыдні прыйшоў адказ. Прыводжу яго амаль цалкам:

"Архіў К.Езавітава вывезлі Мікалай Рулінскі і Філіп Давідчык. Ф.Давідчык родам з-пад Любчы, зараз жыве у г.Тбілісі, навуковец, матэматык. У 1959 годзе М.Рулінскі і Ф.Давідчык спатыкаліся ў Любчы. Больш пра Ф.Давідчыка нічога не ведаю. А М.Рулінскі жыве недалека ад мяне, мы даўно знаёмы.

Нарадзіўся М.Рулінскі на Палессі. Бацька быў дыяканам. Пачатковую школу скончыў у вёсцы каля Баранавіч, дзе меў парафію бацька. Пасля паехаў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, якую не паспеў скончыць, бо пачалася Вялікая Айчынная вайна. Працягнуў вучобу ў Навагрудскай настаўніцкай сем нарыі — да 1944 г. Як вучань паехаў у Альбярцін, што каля Слоніма, на курсы кіраўнікоў Саюза Беларускай Моладзі. У 1944 годзе эскадрон, якім камандаваў М.Рулінскі, адступаў ад Савецкай арміі. І ў Гродне ў канцы маста праз Нёман стаяў Ус. Родзька, перахопліваў беларусаў і накіроўваў у Варшаву, у беларускі аддзел. Там пабылі тыдзень ці два. Ус.Родзька з Барысам Рагулем дамовіліся з нямецкімі ўладамі аб арганізацыі беларусаў для барацьбы з бальшавікамі, якія былі б перакінуты на тэрыторыю Беларусі. Там М.Рулінскі закончыў афіцэрскія курсы і атрымаў званне лейтэнанта Беларускай краёвай абароны. Служыў ва Усходняй Прусіі, ля г.Інстэнбург (цяпер Савецк), у мястэчку Дальвіц, дзе яны дыслацыраваліся. Таму і батальён назвалі "Дальвіц".

Калі бальшавікі набліжаліся, то пачалі адступаць і Родзька, і Рагуля. А камандаваў тады маёр немец Геруліс — ён быў начальнікам школы. З Вайвушаў быў падрыхтаваны і высаджаны дэсант у Беларусь. Разам з ім быў і М.Вітушка. Як скінулі дэсант у Беларусь, тут недзе і папаўся бальшавікам М.Вітушка, быў расстраляны. Ён быў камандзірам дэсантнай групы, а Мікалай Рулінскі быў намеснікам камандзіра. Але Рулінскага не скінулі з дэсантам, бо не раскрыўся парашут... М.Рулінскі едзе ў Берлін спаткацца з Б.Рагулем у Беларускай Цэнтральнай Радзе (БЦР). Там ён і сустрэўся з К.Езавітавым. А паколькі Рагуля добра ведаў М.Рулінскага, таму і даверылі яму і Ф.Давідчыку гэтую місію — вывезці архіў... Яны едуць з Берліна ў Гданьск. З Гданьска цягніком дабраліся да літоўскага горада Шаўляй. Далей дарога была адрэзана Савецкай Арміяй. Тады яны накіраваліся ў партовы горад Лібава, а затым на караблі дабраліся да Рыгі. Там знайшлі беларускую настаўніцу, з якой быў добра знаёмы К.Езавітаў (ён і даў яе адрас), і разам з ёю паехалі на вілу, дзе жыў К.Езавітаў. Два пакоі, якія займаў Кастусь, былі заняты бібліятэкай. "Калі мы ўвайшлі, дык ахнулі, — успамінае М.Рулінскі. — Усе сцены былі запоўнены кнігамі".

Дзве ночы яны выбіралі самае каштоўнае, затым збілі тры скрыні 1,5 х 1 метр. Туды паклалі яшчэ і некалькі асабістых рэчаў Езавітава, у тым ліку патэфон з дыскам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Ноччу прывезлі скрыні на вакзал. Ішоў толькі васьмы нямецкі эшалон, а Рулінскі добра ведаў нямецкую мову, таму паставілі скрыні на нямецкія снарады, самі леглі на скрыні і так даехалі да порта. Затым на караблі дабраліся да Гданьска. Карабель абстрэльвалі, таму плылі ноччу. Вось так, перамагаючы перашкоды, рызыкуючы жыццём на кожным кроку, дваццацігадовы Мікалай Рулінскі разам з сябрам Філіпам Давідчыкам вывезлі частку архіва К.Езавітава за мяжу[...]".

Затым у лісце падрабязна гаворыцца пра далейшы драматычны лёс М.Рулінскага, якому за ўдалую аперацыю К.Езавітаў, тады генерал, прысвоіў званне старшага лейтэнанта. Але да галоўнай тэмы гаворкі гэта дачынення не мае.

Значыць, і з публікацыі ў "Полацаку", і з ліста сп.Леакадзіі Мілаш вынікае, што архіў Езавітава (прынамсі, яго асноўная, найбольш каштоўная частка) быў вывезены з Рыгі ў Берлін (цяпер мы ведаем падрабязнасці), а адтуль — у ЗША. Вершы М.Багдановіча, якія захоўваліся ў архіве ў аўтографах, былі потым, у 50-я гады, надрукаваны ў мюнхенскім зборы твораў нашага класіка. А рэшта? Захоўваецца ў ЗША, у Аляксея Сянкевіча (калі ён жыве), ці яго нашчадкаў? У В.Сянкевіча, які цяпер жыве ў Пасіфіцы, у штаце Каліфорнія? Гэта ўжо пытанні да нашай шаноўнай эміграцыі.

А можа, усё ж нешта засталося і ў Рызе? Тым больш, што фізічныя магчымасці двух "насільшчыкаў" былі абмежаваныя ... Паўліна Мядзёлка нешта ведала. Магла нешта сказаць сваім блізкім знаёмым, пакінуць след у паперах. Пошук трэба працягваць.

"КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ"

## Сцяг вывесілі ў Брэсце, каб было бачна ў Віскулях

**Раніцай у мінулую пятніцу, 13 верасня, жыхары Брэста, якія жывуць побач з ЦУМам, са здзіўленнем убачылі на гадзіннікавай вежы гандлёвага цэнтра бел-чырвона-белы сцяг.**

Паколькі вечарам у чацвер «крамольнага» сцяга побач з галоўным гадзіннікам горада бачна не было, застаецца зрабіць выснову, што невядомы прыхільнік нацыянальных колераў дзейнічаў пад покрывам ночы. Прыкладна а 10-й гадзіне раніцы сцяг быў зняты. Ні тлумачальнай запіскі, ні тэлефоннага званка ад аўтара акцыі гарадскія ўлады не атрымалі. Між тым час, выбраны для правядзення акцыі, сведчыць, што гэта была менавіта палітычная дэманстрацыя. Магчыма, акцыя была прымеркаваная да сустрэчы ў Віскулях А.Лукашэнкі і А.Лебедзя. І хаця ад Віскулёў да Брэста прыкладна 70 кіламетраў, «падарунак», якім сустрэла брэсцкая зямля абодвух дзеячоў, не мог застацца незаўважаным.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

"Беларускі Дайджэст" чакае Вашае ахвяры на Выдавецкі Фонд!!!

— Чаму ты перад сабою палажыў два капелюхі? — пытае прахожы жабрака.
— Інтэрас ідзе так добра, што пастанавіў адчыніць другую філію.



Даёш наперад у бальшавіцкі рай...

— Паважаная спадарыня, колькі вам гадоў?
— Толькі, на колькі выглядаю.
— Ну не жартуйце! Людзі так доўга не жывуць.



***Напрыканцы траўня, слухаючы на рэгіянальнай канферэнцыі ў Варшаве спрэчкі наконт фактараў бяспекі і небяспекі ў рэгіёне Беларусь — Польшча — Украіна, я міжволі звярнуў ўвагу на аднаго з польскіх удзельнікаў канферэнцыі — такія абвостраныя былі яго рэплікі, у тым ліку і на выказванні афіцыйных асоб беларускай дэлегацыі. Ім аказаўся пісьменнік і перакладчык Ежы Памяноўскі, вядомы ў Еўропе таксама і як філосаф, палітолаг і грамадскі дзеяч.***

***Прапаную ўвазе чытачоў гутарку з панам Ежы ПАМЯНОЎСКІМ, які пераклаў на польскую мову "ўсяго Салжаніцына". З аўтарам "Архіпелага ГУЛАГа" польскі пісьменнік пачаў супрацоўнічаць яшчэ ў 1969 г., жывучы ў Італіі. Тады, у Рым, яму і перапраўляліся рукапісы Салжаніцына. Пасля 26-гадовай эміграцыі пан Ежы толькі што вярнуўся на жыхарства ў Польшчу.***

# ПРА БЕЛАРУСЬ І НЕ ТОЛЬКІ...

**ЛіМ, 16 жніўня 1996**

## ГУТАРКА З ПОЛЬСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ І ПЕРАКЛАДЧЫКАМ ЕЖЫ ПАМЯНОЎСКІМ

— Польская літаратура заўсёды кармілася паветрам, традыцыяй, легендамі Беларусі. Само прозвішча "Міцкевіч" значыць, што ён быў беларусам, бо паходзіць ад "Міцька". І ў сучаснай польскай літаратуры ўсё гэта, як і сустрэчы з людзьмі, што паходзяць з Беларусі, адыгрывае велізарную ролю. Сярод маіх сяброў нямала ўлюбёных у вашы мясціны, выхадцаў з цудоўнага беларуска-польска-літоўскага памежжа. Тадэвуш Канвіцкі, што нарадзіўся ў Ваколіцах Вільні, апісвае краявіды, вядомыя вам дасканала з творчасці не толькі Коласа, але і Багдановіча. Хачу бы вам нагадаць, што у другой палове XIX ст. у Польшчы найпапулярнейшы быў не хто іншы, як Уладзіслаў Сыракомля. Пісьменнікам, які стварыў своасаблівы від літаратуры, што спалучыла рэпартаж з гістарыясофіяй, стаў Рышард Капусціньскі, родам з Пінска, які пра Пінск піша, які заказаны ў Палессе.

Успамінаю, што і я дзіцём быў у Беларусі, насіў стрэльбу за маім стрыечным братам Мечыславам, якога запрасілі ў Давыд-Гарадок на паляванне да Радзівілаў. Тое, што з тых часоў памятаю, гэта перш за ўсё пачуцці паляўнічага, якія я зведаў сярод багнаў Прыпяці, на беларускай зямлі. І з тых часоў я заўзяты паляўнічы, з чым жонка ніяк не змірыцца.

Ёсць у мяне сябар — Мар'ян Брандыс, аўтар апавядання "Каралеўства Беларусь". Гэта ён, поўны спачування, поўны любові да Беларусі, апавёў аб трагедыі тых барацьбітоў за незалежнасць Беларусі, якія пад кіраўніцтвам генерала Булак-Балаховіча змагаліся ў 1920 г. на польскім баку. Мар'ян Брандыс і яго брат Казімеж, два буйныя сучасныя польскія пісьменнікі — мае сябры, і я гэтым ганаруся. Яны нарадзіліся на маёй радзіме — у Лодзі. Старэйшы брат, Мар'ян, лепш памятае тыя часы, калі ў іх кватэры знаходзіліся салдаты і афіцэры беларуска-літоўскай дывізіі. Ён апісвае іх, паўтаруся, з любоўю, вялікай сімпатыяй, якую ўвогуле беларусы абуджаюць. На шчасце, не было паміж нашымі народамі тых жахлівых сутычак і разні, як гэта было, напрыклад, на Украіне, на мяжы польска-ўкраінскай,аб чым дагэтуль шкадуюць і ўкраінцы, і мы.

Але пагаворым не пра гісторыю, на якую мы ўжо ўплыву не маем, а пра сучаснасць і пра будучыню. Я расказаў пра тыя літаратурныя і гістарычныя традыцыі толькі дзеля таго, каб мае беларускія чытачы зразумелі, што я адзін з многіх польскіх пісьменнікаў, які, па сутнасці, вашай зямлі, вашых краявідаў амаль не ведае, тым не менш з самых ранніх гадоў быў насычаны тымі самымі ўспамінамі, традыцыямі і літаратурнымі ўражаннямі, якія былі блізкія душы кожнага свядомага беларуса.

Тое, што я гавару аб Беларусі як аб нечым асобным, тое, што традыцыі ВКЛ мне вельмі дарагія, не азначае, што я не разумею, што дамінацыя Польшчы ў даўняй Рэчы-Паспалітай была несправядлівая. Мае вочы не замутненыя таксама нянавісцю да Расіі, і таму я ўсё жыццё мог перакладаць рускую літаратуру. У сваёй краіне я не менш вядомы як перакладчык, чым як аўтар уласных кніжак. Праз колькі дзён у вялікім варшаўскім выдавецтве "Чытэльнік" адбудзецца прэзентацыя адразу некалькіх маіх кніжак. Побач з томам эсэ "Магнітны полюс" будуць прадстаўлены і мае пераклады — новыя выданні твораў А. Салжаніцына, якога я перакладаў яшчэ тады, калі тое было крыміналам — і ў Польшчы і ў Саюзе. Я быў тады ў эміграцыі ў Рыме і на заклік Ежы Гедройца, рэдактара парыжскай "Культуры", найлепшага выдання, якое ў гісторыі нашага народа існавала, замест таго, каб думаць аб сваіх уласных кніжках і універсітэцкай кар'еры, узяўся за пераклад кантрабандна вывозімых з Расіі твораў Салжаніцына. Было гэта ў 1969—70 гг. І на працягу 5 гадоў я не рабіў нічога, апрача перакладаў "В круге первом", "Архипелага ГУЛАГа", публіцыстычных матэрыялаў. Потым былі творы Шаламава, а таксама артыкулы Андрэя Сахарава, гэтага вялікага неадшкадаванага чалавека, які з пэўнасцю б вітаў вольнасць і незалежнасць Беларусі і Украіны.

**— Ці давялося вам чытаць кніжку Францішка Яноўха "Феномен Андрэя Сахарава", выдадзеную нядаўна ў Празе?**

— Канешне, ведаю гэтую кніжку. Вельмі цаню і люблю чэхаў і славакаў, і ў найменшай меры з-за нацыянальна этнічных прычын, больш з-за агульных карэнняў культуры і агульнага чытання. Нічога так людзей не звязвае, як разам прачытаныя кнігі.

**— Вы, вядома ж, чытаеце па-чэшску, па-славацку?**

— Па-славацку лягчэй, але затое пачэшску мае творы больш перакладаліся. Напрыклад, у часопісе "Стржэдні Эўропа" месяцы два назад з'явілася маё эсэ "Як дапамагчы Расіі". Так, Расіі, а не Савецкаму Саюзу. Хацелася, каб мае беларускія чытачы ведалі, што, разам са многімі палякамі, я лічу, што ў Польшчы няма антаганістычных адносінаў да Расіі, але ёсць антаганістычныя адносіны да Савецкага Саюза. Гэта трэба зразумець. Але мяне турбуе, што ў Расіі, на жаль, захавалася адна пагібельная ідэя. Гэта ідэя не расійская, а нямецкая, гітлераўская — ідэя Lebensraum'a, ідэя, паводле якой для магутнасці дзяржавы патрэбныя захопы жыццёвых прастораў чужых земель, пашырэнне межаў, распіхванне локцямі. Ідэя гэта засталася толькі ў Расіі. У іншых месцах яе выкінулі. Французы бласлаўляюць Дэ Голя за тое, што ён загадаў ім выйсці з Алжыра. А яшчэ нядаўна крычалі, "Алжыр павінен быць французскім!" Гінулі за гэта. Зараз яны шчаслівыя, што там іх няма. Англічане з гонарам пакінулі Індыю, і горш ад таго ім не стала.

**— Мне спадабалася, як вы адрэагавалі на яхідную рэпліку намесніка міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча: сам бы, мауляў, уступіў у НАТА, так яго тут хваляць.**

— Я з усёй павагай стаўлюся да віцэміністра Антановіча. Ён вельмі прафесійна абараняў сваю справу. Шкада толькі, што справа несправядлівая. Але з адным яго палажэннем я зусім згодны, нават яго запісаў: "У 1973 г. у французаў не было ні золата, ні сыравіны. Але ў іх была ідэя, і яны перамаглі". Людзі, якія думаюць як я, лічаць, што Беларусі, каб выйсці з дэпрэсіі, з эканамічных запазычанасцяў, не трэба разлічваць на Расію і чакаць дапамогі толькі ад Расіі, як гэта было ў савецкія часы. Не буду тут гаварыць пра мову і культуру, пра нацыянальную годнасць. Я не магу асуджаць беларусаў за тое, што многія з іх не ведаюць уласнай мовы. Ірландцы размаўляюць па-англійску, а не на сваёй, кельтскай мове. Але ў іх ёсць пачуццё нацыянальнай годнасці, яны ваююць за незалежнасць, асабліва ў Паўночнай Ірландыі. Хаця іх спосаб барацьбы і годны асуджэння, як усякі тэрарызм.

Якія слабыя пункты я бачу ў пазіцыі Антановіча ў адносінах з Расіяй? Па-першае, яму не шкада расіян. Ён не разумее, што ўзяць Беларусь на ўтрыманне азначае павелічэнне на 10 працэнтаў знешняга доўгу збяднелай Расіі. Расіяне з гэтым не захочуць пагадзіцца, бо зусім не мараць, каб расійскі рубель курсіраваў замест "зайчыка". Зараз яны ў абмен на сыравіну, нафту, машыны атрымліваюць з Беларусі драўніну, жыўнасць, сыр, масла, часам зерне, цяжкагрузныя аўтамабілі... А што будзе тады? Свае ўласныя папяровыя рублі. Можа, спачатку гэта ім і спадабаецца, але потым перастане, і яны пачнуць беларусаў праклінаць. І зноў будуць чэргі. Хто вінаваты? Беларусы. А ў чым? Ды ні ў чым. Яны таксама хочуць жыць.



Другая памылка яшчэ горшая. Яна заключаецца ў тым, што віцэ-міністр Антановіч, замест таго, каб даць беларусам вуду, хоча даць ім рыбу... Адкажыце на пытанне: што вы робіце з зямлёй? Хіба беларускія сяляне бяруць зямлю? Не.

**— Не бяруць, бо псіхалогія ўжо не тая.**

— Прабачце, Маркс меў рацыю: псіхалогія залежыць ад эканомікі. Калі чалавек убачыць, што ўласная зямля яму на карысць, дык ён яе возьме.

**— Якраз з гэтым і цяжкасці. Дзяржава ж — за калгасы, трылёнавыя падачкі ім для падтрымкі дае.**

— Калгасы — для людзей без ініцыятывы і без будучыні, для людзей запалоханых. Беларускі селянін будзе ў калгасе дагэтуль, пакуль не будзе ўпэўнены, што атрымае зямлю ва ўласнасць. У Польшчы ў 1956-м Гамулка, які быў склеротыкам і сатрапам, але часам розум меў, аддаў зямлю сялянам на ўласнасць, ліквідаваў калгасы. Польскі селянін заўсёды быў самадзельны, за выключэннем 4 альбо 5 гадоў. І гэта вельмі важна. Беларуская сельская гаспадарка, калі б аказалася ў прыватных руках, была б не горш за скандынаўскую. Упэўнены, калі б я паразмаўляў з віцэ-міністрам з тыдзень, — а гэты пан мне асабіста спадабаўся, — я яго б пераканаў.

**— Так, у вас для гэтага ёсць неабходныя якасці.**

— Я прывёз бы яго да сваіх сяброўпаляўнічых. Ён бы ўбачыў, што селянін наш не дасць зямлю адабраць. Яшчэ пры камунізме я гаварыў аднаму з іх: "Антэк, чаго гэта ты так глотку рвеш на людзях? Не баішся?" А ён: "З селяніна ж мяне не знімуць".

**— Але міністра ці яго намесніка знімуць, калі будзе выказваць "не тыя" погляды. Што ж да Антановіча, дык ён вельмі інфармаваны, колькі гадоў быў дырэктарам Белінфармпрагноза, не горш нас разумее, што робіцца нешта не тое. Пераконваць яго — пустая справа.**

— Без пэўнай адвагі, аднак, не абысціся. У 70-х гадах дзеячы "Салідарнасці", пачынаючы страйкі, усведамлялі, што не толькі працу могуць страціць, а і ў турму трапіць. Але спыніла сваю дзейнасць верф, а за ёю і іншыя прадпрыемствы. І вось прэм'ер Ярашэвіч — блаславі Гасподзь яго душу! — прыехаў у Лодзь на вялікую ткацкую фарбрыку, спытаўся: "Чаго вы бастуеце?", а яго там закрылі разам з ткачыхамі на трое сутак, хлебам і малаком карміці, пакуль ён не паабяцаў адмяніць павышэнне цэн на хлеб, што і было зроблена. Гэта была нармальная забастоўка, не злачынства, не разня. Крыху адвагі трэба мець. І сяляне на такое здольныя. Калі возьмуць зямлю, Беларусь праз тры гады будзе самадастаткоай краінай. Па меншай меры ў адносінах да харчавання. І з'явяцца сыр, каўбаса і ўвогуле што хочаце. Прычым без чаргі.

**— Праблема ў нас не чарга, а грошы, каб купляць тое, што ёсць у крамах.**

— А якой вытворчасці тавары і прадукты?

**— У асноўным не беларускай, канешне.**

— Ведаю якія. Я толькі што з Масквы. Снікерсы-крэкерсы. Галандскія сыры і іспанскія каўбасы.

**— У Маскве такога больш, у нас менш, але сітуацыя падобная.**

— Я скажу, чаму так. Таму, што селянін не працуе толькі на сябе. Належыць да калгаса, на сваім корпаецца ўчастку — толькі каб мець кавалак хлеба. Гарбачоў адчыніў межы, адкрыў шлях рэформам. Але справа не толькі ў гандлі, але і ў вытворчасці.

Аб тым, што адбываецца на Беларусі, я ведаю ад майго сябра, самага галоўнага ў Польшчы прапагандыста беларускай культуры. Яго імя Земавіт Фядэцкі. Ён — рэдактар лепшага ў Польшчы літаратурнага часопіса "Творчасць", вядзе там аддзелы паэзіі і агляду славянскага друку. Асаблівую схільнасць ён мае да беларускай літаратуры і беларускага фальклору. Ягона кніжка аб беларускім фальклоры — "Цёплыя вечары" — надрукавана і кірыліцай, і лацінкай. Гэты чалавек — сын польскага перадваеннага селяніна, які меў участак зямлі пад Лідай і быў інспектарам працы. Інспектар Фядэцкі займаўся тым, што абараняў беларускіх батракоў і вытворцаў ад самавольства падатковых чыноўнікаў, такая была ў яго функцыя. І ён гэтую функцыю так шчыра выконваў, што калі прыйшлі немцы і ягонага сынка Земку хацелі забраць на работы ў Германію, то што зрабіў стары пан Фядэцкі? Ён аддаў свайго сына беларускім сялянам, каб яны яго ў сябе схавалі. І Земек правёў чатыры гады ў беларускай вёсцы, размаўляў па-беларуску. І што тады Земек рабіў? Ён запісваў беларускія прыпеўкі, песні, прымаўкі — якія і выдаў нядаўна ў Польшчы.

Што было далей? Нядаўна лідчане запрасілі пана Земавіта Фядэцкага да сябе, каб адзначыць яго юбілей. Яны там хацелі ў яго гонар арганізаваць свята. Таму, што такой кнігі, як "Цёплыя вечары", ніхто дагэтуль не напісаў. Яна выйшла, тут яе людзі чыталі, хвалілі, ён атрымліваў пісьмы ад беларусаў, з Беластока і іншых месцаў Польшчы. Канешне, лідчане былі яму ўдзячныя.

І вось толькі што я даведаўся ад майго сябра, што па распараджэнні з Мінска гэта свята было адменена і ў месца свайго дзяцінства ён не паедзе. Не дазволілі адзначыць юбілей паляка ў Беларусі.

Будзеце пісаць, абавязкова скажыце аб Земавіце Фядэцкім. І перадайце мае пытанне кіраўнікам Беларусі: "Чаму Беларусь не хоча мець сяброў? Хіба ў яе іх так многа, што больш не трэба?"

**Гутарку правёў**
**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ**

# Ці магчымае ў Беларусі грамадзянскае прымірэнне?

"СВАБОДА"

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

*Па ўсім відаць, што не. Бо і тыя, хто сёння трымае ў руках рэальную ўладу, і тыя, хто ёй супрацьстаіць, настроеныя рашуча і бескампрамісна*



Імпэт гэтым грунтуецца на нашым трывалым бальшавіцкім выхаванні. Адсюль зацятасць і непрымірымасць. Гэта, бадай што, галоўныя прыкметы шматколернага палітычнага спектра краіны. Слова «згода» стала ці не самым пагарджаным у палітычным лексіконе.

Не будзем паглыбляцца ў выток такога становішча, вызначаць, чыя праўда, а чыя — віна. Адзначым толькі, што супрацьлеглыя бакі грамадзянскага канфлікту ў Беларусі з усіх сіл «закручваюць гайкі». Сітуацыя вельмі блізкая да таго, што хутка лясне і сама «разьба».

У ролі найбольш імпэтнага «слесара» выступае якраз кіраўнік дзяржавы, па характары агрэсіўны, наступальны і бескампрамісны. Любімая тактыка — нечаканыя апераджальныя ўдары ў самае балючае і неабароненае месца праціўніка. Напрыклад, пад дых... І калі перайсці з «вытворчай» тэрміналогіі на спартовую, то прэзідэнт — баксёр з цудоўнай рэакцыяй, з кваліфікацыяй майстра. Слабатрэніраваныя апаненты перад ім — юнакі-трацеразраднікі. Прычым у апошні час баксёрскія здольнасці ўсё часцей прымяняюцца ў самым літаральным сэнсе.

Добра вядома, што на сваім «рынгу» А.Лукашэнка ніколі і ні з кім не захоча дзяліць перамогу (уладу). Наадварот, шчыра — часта і занадта шчыра — упэўнены ў сваёй праваце, прэзідэнт імкнецца тую перамогу давесці да абсалюту.

Карацей, грамадзянскі кампраміс, прымірэнне, хаця б часовае перамір'е ў Беларусі, па ўсім відаць, немагчымае. Бо занадта ўжо розныя зыходныя духоўныя параметры супрацьлеглых бакоў. І тым не менш...

## Паспрабуем уявіць адваротнае

Палітычная групоўка, якая ў многім па выпадковых рысах аб'ядналася два гады таму вакол Аляксандра Лукашэнкі, даволі лёгка атрымала ўладу. І, па ўсім відаць, трохі пераацаніла свае магчымасці. Груз тае ўлады аказаўся даволі цяжкім. Зададзеныя палітычныя і эканамічныя параметры абапіраліся найперш на спадзяванні хутка і прыгожа «інтэгравацца» на Усход. Але Масква, якая і ў лепшыя часы «слязам не верыла», у дачыненні да Беларусі нечакана праявіла зусім не славянскі прагматызм.

Праблемы ўсё болей абвастраліся, і гэта прывяло да новага ўсплеску дзейнасці апазіцыйных прэзідэнту сіл. Не адбылося чаканага «прарыву» і на знешнім фронце. І Захад, і Усход усё болей пачынаюць выяўляць сваё раздражненне палітыкай беларускіх уладаў.

«Маладыя ваўкі» нечакана для іх аказаліся абкладзенымі з усіх бакоў. Апазіцыянеры ўсё энергічней вылучаюць ідэю так званага імпічменту — адхілення прэзідэнта ад улады канстытуцыйным шляхам.

Але, па вялікім рахунку, наўрад ці сілы, якія супрацьстаяць Лукашэнку, здольныя тую ідэю рэалізаваць. Паміж разнастайнымі палітычнымі плынямі, часам абсалютна супрацьлеглымі, няма ні трывалай еднасці, ні цёплага сяброўства. Няма пакуль што выразнай, рашучай, дынамічнай волі, адэкватнай Лукашэнку, увасобленай у пэўную палітычную фігуру. Затое надзвычай моцны амбітны фактар. Усе гэта ў выніку вядзе да сукупнай палітычнай «імпатэнцыі», якая два гады таму моцна паспрыяла перамозе Аляксандра Лукашэнкі.

І тым не менш, імпічмент прэзідэнту пагражае. Ягонае грознае дыханне ўсё болей чуваць, але не з Мінска, а ўсё з таго ж «лучшего города земли». Якраз адтуль не вельмі ўпэўненыя ў сваіх сілах апаненты Лукашэнкі чакаюць чарговага «русского чуда». Гэта адтуль пачала з зайздросным пастаянствам «прасочвацца» інфармацыя, што так ці інакш кампраметуе прэзідэнта. Там, па ўсім відаць, моцна незадаволеныя.

Як гэта ні дзіўна, ва «ўсенароднаабранага» прэзідэнта ў Беларусі няма трывалай апоры.

*Народ*, да якога прэзідэнт збіраецца звярнуцца? Але даўно вядома, што любоў народа вельмі падобная на любоў жанчыны. Вельмі гарачая страсць хутка можа змяніцца глухой нянавісцю...

*Вертыкаль?* Ды яна толькі і чакае, калі «бацька» ўсур'ёз спатыкнецца, каб тут жа ўчапіцца яму ў горла.

*Сілавікі?* Гэтыя ва ўсе часы служылі моцнаму. Як толькі гаспадар слабее, змяншаецца адданасць.

*Дарадцы?* Яны ўжо аказалі прэзідэнту шмат цікавых паслуг, якія ў народзе завуць «мядзведжымі». Дый дастаткова згадаць лёс В.Кебіча, які трымаў побач тых самых.

Як гэта ні парадаксальна, ад рэальнай пагрозы маскоўскага імпічменту Лукашэнку могуць ўратаваць якраз тыя, каго так апантана збівалі дубінкамі, труцілі газам, трымалі ў засценках КПЗ. Так, гэта ўсе тыя ж бітыя, пагарджаныя, так нелюбімыя прэзідэнтам «нацыянал-радыкалы».

## Як і навошта?

Адхіленне прэзідэнта ад кіраўніцтва наўрад ці прывядзе да кансалідацыі грамадства. Сітуацыя можа пагоршыцца яшчэ больш. Пад шумок чарговай змены ўлады нас «распрануць» зусім... Вытворчасць яшчэ больш будзе дэзарганізаваная. Калі хто па прыкладзе Лукашэнкі спадзяецца хутка навесці «парадак», то гэта справа ілюзорная. Дзеля таго патрэбна вельмі шмат часу і шмат працы. Сённяшнія саюзнікі заўтра хутчэй за ўсе стануць непрымірымымі апанентамі, бо вяднае іх пакуль што толькі агульная ўсёсакрушальная нелюбоў да «бацькі».

Палітычная тузаніна і блытаніна прывядуць да хаосу і канчатковага калапсу эканомікі і сельскай гаспадаркі. У выніку да ўлады можа прыйсці яшчэ больш адыёзная і непрадказальная фігура, на фоне якой Аляксандр Рыгоравіч здасца анёлам з крыльцамі...

Але найбольшая небяспека для краіны і яе народа ў тым, што людзей кшталту Аляксандра Лукашэнкі ні ў якім разе нельга заганяць у кут! Такая сітуацыя абсалютна непрадказальная і можа прывесці да сапраўднай крыві! Прэзідэнт павінен мець шляхі да адступлення і кампрамісу.

Але якім жа чынам могуць нацыянал-дэмакраты не толькі цярпець «бацьку», але і стаць грудзьмі на яго абарону?

І могуць, і стануць, калі прэзідэнт цвёрда акрэсліць свае становўчыя адносіны да незалежнасці Беларусі (а гэта сёння зусім не выглядае неверагодным) і здзейсніць некалькі практычных валявых крокаў, якія зробяць магчымым прымірэнне беларусаў, што так патрэбна смяротна стомленаму ад усялякіх палітычных гульняў і інтрыг народу.

## Магчымы шлях

Прэзідэнт прынцыпова (пажадана — сумесна з парламентам) змяняе ролю кіраўніка ўрада. Ягоныя функцыі значна пашыраюцца, бо (*хай даруе нам чытач такое звышневерагоднае дапушчэнне*) прэзідэнт добраахвотна дзеліцца з ім часткай сваёй амаль што царскай улады. І найперш у плане правядзення рэальных эканамічных рэформаў. Не сакрэт, што сённяшні ўрад жорстка заціснуты ў вельмі вузкія рамкі.

А на значна мадыфікаваную пасаду прэм'ер-міністра прэзідэнт прызначае... Не, не нацыяналіста-дэмакрата, з якім ён стаяць у адной запрэжцы не зможа, а так званага *нацыянал-камуніста* з шэрагу нешматлікай, на жаль, у нас (у адрозненне ад Украіны) кагорты выхадцаў з наменклатуры.

Гэты чалавек, прынамсі, павінен вызначацца выразнай нацыянальнай арыентацыяй, быць шчырым прыхільнікам незалежнасці Беларусі, мець добрыя стасункі як з найбольш уплывовай наменклатурай, так і з нацыянал-дэмакратычнымі коламі, найперш з нацыянальнай інтэлігенцыяй.

Пры жаданні прэзідэнт лёгка знойдзе такую фігуру (нават з яскравым «нацыяналістычным» мінулым), якая дапаможа яму забяспечыць усталяванне ў грамадстве не ілюзорнай згоды паміж непрымірымымі палітычнымі апанентамі (час і жыццё ўсё расставяць на месца), а рэальнае прымірэнне дзеля выратавання Бацькаўшчыны ад надта ўжо блізкага эканамічнага — а значыць, і дзяржаўнага — краху.

Падкрэслім, гэта можа быць магчымым пры наяўнасці палітычнай волі і ўсведамлення сапраўднай адказнасці за лёс народа асабіста Аляксандра Лукашэнкі, які ўжо не раз даказваў, што здольны на крутыя, валявыя рашэнні.

## Выйграюць усе

Кіраўнічая эліта, зрабіўшы мужныя, рашучыя крокі па выратаванні нашай дзяржавы, выратавала б у выніку без вялікіх канфліктаў і ўзрушэнняў і сваю ўладу. Пры сённяшніх крайне неспрыяльных для эліты варунках ёй дастаткова праявіць элементарны інстынкт самазахавання (які, як вядома, у любой улады ці не наймацнейшы), а не абвастраць сітуацыю да мяжы, калі грамадскія і сацыяльныя працэсы выйдуць з-пад кантролю... Дарэчы, толькі звышцынічныя і дэградаваныя палітыкі могуць жадаць зла і нягод сваёй краіне і свайму народу. Наўрад ці ў гэтым можна папракнуць А.Лукашэнку.

*Прэзідэнт* на справе становіцца прэзідэнтам усяго беларускага народа і — рэальна, а не дэкларатыўна — вярхоўным арбітрам над правымі і левымі палітычнымі плынямі, бо здымае напружанасць як з нацыянальна арыентаванымі коламі, так і з камуністамі, якія зусім не зацікаўленыя ў змяненні сённяшняга канстытуцыйнага *status quo*.

*Нацыянал-дэмакратам*, якім даўно ўжо пара адмовіцца ад палітычнага ідэалізму, не давядзецца пераходзіць на падпольныя метады палітычнай барацьбы, да якіх яны ўжо пачалі актыўна рыхтавацца. І ўвогуле, ім трэба ўсвядоміць, што нават сам факт іх існавання стымулюе прэзідэнта.

Змяніўшы свой камуністычна-таталітарны імідж у Еўропе,

---

**Каментарый выконваючага абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту Лявона Баршчэўскага на заяву прэзідэнта А.Лукашэнкі аб тым, што давыбараў у Вярхоўны Савет не будзе, быў кароткі. «Я лічу, што, калі гэты чалавек застанецца пры ўладзе, давыбараў сапраўды не будзе. Вярхоўны Савет павінен з гэтага зрабіць свае высновы, толькі ён можа законным шляхам знайсці выхад з сітуацыі. Я маю на ўвазе імпічмент», — заявіў Лявон Баршчэўскі.**

*БелаПАН*

**Юры Захаранка: «Я яшчэ раз пераканаўся, што Беларусь не мае будучыні з такім прэзідэнтам.**

**Ствараецца такое ўражанне, што грамадзян, якія яго выбралі, ён лічыць за паўдуркаў. Уся прамова Лукашэнкі была пабудаваная на падмане і на падмене фактаў і абставін сённяшняга жыцця ў Беларусі. Прэзідэнт папросту баіцца непазбежнай адказнасці за поўны провал двухгадовага кіравання краінай».**

**В.В.**

Беларусь, гаспадарка якой нагадвае сёння чалавека, што памірае ад смагі ў пустыні, атрымае нарэшце рэальныя ручайкі інвестыцый.

Відавочна, што і Расія-матухна, будучы ў вачах усяго свету ў дачыненні да Беларусі апякункай-заступніцай, не зацікаўленая ва ўзмацненні напружанасці ў нашай краіне. Свет і Расія не надта вераць, што ўсе працўнікі рэжыму ў Беларусі — гэта людзі, нанятыя за грошы ЦРУ. Нават для багатай Амерыкі гэтая акцыя была б дарагаватай.

Можна нарэшце супакоіць народ і даць яму магчымасць працаваць на самога сябе, а не тузаць яго ўправа-ўлева рэферэнднымі вяроўкамі. Нельга бясконца апеляваць да няшчаснай, шматкроць згвалчанай і ашуканай волі гэтага народа.

## Адзіны спосаб

Прымірэнне нацы — вельмі вострая жыццёвая неабходнасць. Іншыя шляхі, накшталт новых рэферэндумаў, — заганныя, бо вядуць да новых канфліктаў. Наўрад ці ўдасца ўладам паставіць сваіх апанентаў на калені. Дзеля «поўнай перамогі» іх можна хіба знішчыць фізічна, пажадана да апошняга чалавека. Бо калі хоць адзін застанецца... А гэта нават пры «баксёрскай» рашучасці і адчайнай смеласці прэзідэнта, які «нічога не баіцца ў сваёй краіне», наўрад ці лёгка ў яго атрымаецца. На дварэ не 1937 год, нават не 1989.

З наяўнасцю апанентаў рана ці позна прэзідэнту давядзецца змірыцца і вучыцца мірна з імі суіснаваць. І не толькі прэзідэнту, а і ўсім нам. Бо былі і будуць людзі, якія маюць адрозныя ад нашых погляды і меркаванні. І з імі, хочам мы таго ці не, трэба будзе жыць далей, неяк суіснаваць, а не біць дубінкамі па галаве ці страляць з аўтаматаў. «Вораг у нашым доме» — гэта мы ўжо праходзілі. Ды і не дарые ніколі гісторыя бясконцай барацьбы з уласным ценем.

**Таму такія фантастычныя, на першы погляд, кампраміс і прымірэнне пакуль магчымыя, бо не зробленыя яшчэ тыя страшныя, непапраўныя крокі, калі не будзе ўжо шляху назад. Пра гэта варта задумацца найперш тым, хто і прэзідэнта, і народ падштурхоўвае пад руку... Новую Кастрычніцкую рэвалюцыю 7 лістапада на Беларусі яшчэ можна прадухіліць, не дапусціць яе «канчатковай і поўнай» перамогі. Піравай перамогі.**



## Некалькі здымкаў з 22-е Сустрэчы Беларусаў ЗША.









# Гульні ў дыктатуру сканчаюцца кепска



**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

*Жорсткі прысуд, які вынесены двум былым паўднёвакарэйскім прэзідэнтам, безумоўна, — сур'ёзнае папярэджанне тым дамарослым дыктатарам, якія, трапіўшы на прэзідэнцкую пасаду законна, парушаюць законы, перапісваюць для сваіх патрэб дэмакратычную канстытуцыю і пакрысе ўсталёўваюць аўтарытарны рэжым. Хоць нашая айчынная дыктатура развіваецца шмат у чым паводле лацінаамерыканскага ўзору, нам лепей вядомы класічны германскі прыклад.*

Фюрэр гуртаваў вакол сябе людскія масы, дасканала авалодаўшы майстэрствам абвінавачвання ворагаў. Наш прэзідэнт таксама вельмі любіць гэты метад. Германскі вопыт вучыць, што правадыр набірае сілу ад людзей, учыняючы масавыя зборышчы (на вольным паветры і ў вялікіх памяшканнях) з гучнай бравурнай музыкай, морам сцягоў, часам з запаленымі паходнямі і маршам узброеных атрадаў.

Лукашэнка дагэтуль рабіў наадварот: ён імкнуўся зарадзіць народ сваёй энергіяй праз тэлевізар, які ёсць у кожнай кватэры. Але ён не Кашпіроўскі, яго відавочна знясільваюць сеансы тэлегіпнозу. Ён сам смокча энергію з масаў, а тыя і радыя — каб адчуваць палёгку. Так раней лекары ставілі хворым п'яўкі — каб зменшыць ціск крыві ў жылах.

Вулічных зборышчаў Лукашэнка дагэтуль інстынктыўна баяўся, бо ведаў, што ягоных працўнікаў збіраецца заўсёды значна больш, чым прыхільнікаў. Праўда, сітуацыю можна выправіць, калі даручыць арганізацыю мітынгу «вертыкалі». Аднак сам прэзідэнт нават на гэтых афіцыйных сходах не з'яўляецца. З другога боку, тэлепрамыўкі мазгоў ужо відавочна замала, таму спешным чынам арганізуецца «ўсебеларускі сход», на якім Лукашэнка проста не можа не паявіцца, бо дзеля ягонага выступу і заварэцца гэтая каша.

Праўда, думаю, што яму гэта не дапаможа. Фюрэр зараджаўся ад масаў энергіяй захаплення яго ж уласнай персонай. «Народны сход», дэлегаты якога будуць абірацца паводле прэзідэнцкіх указанняў, дасць Лукашэнку толькі энергію нянавісці да ворагаў — г.зн. тое самае, чым здольны насыціць іх і ён сам.

Шлях Беларусі да дэмакратычнага ладу вельмі складаны. Псеўданацыянальная дэмакратыя, якая была пры Кебічу і Шушкевічу і якую зноў можа прапанаваць, напрыклад, той жа Шарэцкі, нічога нам не дасць. Карані яе — у псеўдасацыялістычнай дэмакратыі часоў КПСС і СССР. Тады таксама быццам існавала канстытуцыя, якая дазваляла шмат якія свабоды, але толькі на паперы. Эканоміка развівалася заганна. Усяго гэтага мы так і не пазбыліся да сённяшняга дня. І не пазбудземся, пакуль будзем мецць «усенароднаабранага». Сацыялістычная ідэалогія гэтага рэжыму эканамічна бясплодная. Як фюрэр помсціў за Версаль, так Лукашэнка помсціць за Віскулі. Уздыму эканомікі гэта не дапаможа. Амаль відавочна, што гэтая дыктатура яе зруйнуе ўшчэнт. Вось тады сам сабой надыдзе час новай дыктатуры, але ўжо нацыянальнай. І толькі калі нацыянальны прагматычны дыктатар здолее аднавіць разбураную папярэднім рэжымам эканоміку, толькі тады на Беларусі паявяцца рэальныя ўмовы для ўсталявання дэмакратычнага ладу, але не раней.

Дык як доўга будзе трымацца цяперашні рэжым? Відаць, трэба набрацца цярплівасці. З другога боку, падзенне камуністычных рэжымаў у некаторых краінах адбылося вельмі хутка. Варта было толькі выйсці на вуліцы дзесяткам тысяч людзей з пратэстам, як было ў ГДР і Чэхаславакіі. Прычым адбылося гэта амаль бяскроўна, у Празе загінуў толькі адзін студэнт. У Албаніі і Румыніі было больш ахвяраў і, адпаведна, больш жорстка за гэта паплаціліся камуністычныя дыктатары. А гісторыя, як бачым, схільная паўтарацца, пра што сведчыць свежы карэйскі прыклад.

Дарэчы, у Албаніі пасля адыходу камунізму слова «спадар» (якое ў нас так і не атрымала правоў) — як прыкмета свабоды і развітання з дыктатурай — прыжылося літаральна за ноч. Абрыдлы зварот «таварыш» ператварыўся па сутнасці ў лаянку. Так і ў нас аднойчы здарыцца. Бяда толькі ў тым, што да ўлады прыйшоў чалавек, які ў часы прэзідэнцкай кампаніі не без гонару называў сябе «нішчым». Цяпер гэты «нішчы» — самы багаты чалавек, толькі аховай ягонай персоны занятае цэлае войска.

Лех Валэнса сёлета сказаў, што крах ваеннага рэжыму Яруззльскага ў Польшчы падрыхтавалі дзве тысячы дысідэнтаў. Столькі, а нават і значна больш дысідэнтаў ёсць сёння і ў Беларусі. Канечне, у нас пры гэтым няма пакуль масавай незалежнай арганізацыі накшталт польскага прафсаюза «Салідарнасць», няма апазіцыйнай да дыктатарскай улады царквы (наша, наадварот, трымаецца за прэзідэнта рукамі і нагамі). Так, гэтага не было і ў Албаніі, але былі толькі дысідэнты і змучаны бяздарнай эканамічнай палітыкай камуністычных уладаў народ, які больш не верыў ніводнай іхняй абяцанцы.

*«Свабода»*


IN MEMORIAM


Сьвятой Памяці

## ФАІНА ЛУК'ЯН-ШАБОВІЧ
## 1935 —1996

5-га жніўня 1996 году, на 61-м годзе жыцьця адыйшла ад нас на вечны супачынак Фаіна Лук'ян-Шабовіч. Нарадзілася нябожчыца ў 1935 годзе на Беларусі, каля Мядзела.

Пахавальны абрад 10-га жніўня 1996 году выканаў а. Міхась Страпко. Пахавана Сьв. Пам. Фаіна каля беларускай часткі Riverside Cemetery ў Кліўлендзе, Огаё, ЗША.

Нябожчыца Фаіна пакінула ў смутку мужа Сяргея, сямёра дзяцей і адзінаццаць унукаў, брата, дзьве сястры і шматлікую радню па мужу і па сабе.

Хай Ёй пухам будзе зямля амэрыканская, а памяць пра Яе застанецца ў нашых сэрцах на доўгія гады.

*Вечная Памяць!*

С.

# БЕЛАРУСКАСЦЮ ПУЖАЮЦЬ НАРОД

Знявага беларускай мовы, усяго беларускага прымусілі мяне пакінуць кампанію былых сяброў. Вельмі ўжо хацелася ім, рускамоўным, выказаць сваю незадаволенасць беларускасцю наогул, быццам бы вінаватай у іх дрэнным жыцці. Усё гэта рабілася пры добрым веданні маёй беларускай нацыянальнасці і маёй адчувальнай у гэтым напрамку душы. Апроч таго, многія з прысутных не аднойчы карысталіся маімі важкімі дапамогамі, якія я рабіў зусім не думаючы аб нацыянальнай прыналежнасці кожнага. У АН Беларусі беларускасцю, напрыклад, проста пужаюць народ. Быццам бы яна перакрые краны навуковай выніковасці тэм. Хоць на самай справе практычна поўная бясплоднасць навукі пэўных накірункаў звязана ў Беларусі з празмернай яе прывязаннасцю да Расіі, да савецкага ваеннага комплексу, без уліку беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Непавага да адметна беларускага, погляд на яго з савецка-маскоўскай вышыні, як на штосьці ніжэйшае, правінцыяльна адджыўшае, адпаведныя палітычныя, эканамічныя і проста зневажальна-сілавыя прыёмы зрабілі сваю ганебную справу. Спасылкі на майскі рэферэндум 1995 года, дзе быццам бы беларусы самі адмовіліся ад беларускасці — не адпавядаюць рэчаіснасці.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

# *Нам пішуць... Нас Пытаюць...*

Паважаны Сп. Рэдактар!

Я і мой сужэнец зьяўляемся сталымі падпішчыкамі Вашай паважанай газэты "Беларускі Дайджэст".

Зьвярнула я асаблівую ўвагу на апісаньне «Дэманстрацыі ў Вашынгтоне» за подпісам "Б.П." /31 ліпеня 1996 г./. Мяне вельмі зьдзівіла, калі былі вымененены розныя арганізацыі, якія бралі ўдзел у дэманстрацыі, абмінуўшы ўдзельнікаў ад Царквы імя Сьвятое Ефрасіньні Полацкай з Саўт-Рывэра, штат Нью Джэрзі, на чале з старшынём Беларуска-Амэрыканскага Кангрэсовага Камітэту.

Было нас дванаццаць чалавек... Ня ведаю, у які спосаб можна было абмінуць беларусаў Саўт-Рывэру? Р. К.

*Вельмі Паважаная Спд-ня Р.К.! Гэтае апісаньне мы атрымалі, калі не памыляюся, з беларускае прэсы. Памылкі і недагляды здараюцца даволі часта і за гэта мы перапрашаем. Ваш ліст гэты недагляд спраўна карэктуе. Жадаем усяго найлепшага!*

Шаноўны Спадар Рэдактар!

Шчыра, шчыра дзякую Вам за беларускую газэту, якую мне прыема чытаць. Далучаю ахвяру на падтрыманьне выдавецкага фонду.

З пашанай, В. Ч.

*Дзякуем за гойную ахвяру і жадаем усяго найлепшага*

Дарагі Мікола і Вера!

...Будучы ў Н. Ё. у мінулым месяцы, заехаў да Н. і там пабачыў твой, Мікола, новы "Б.Д.". Брава, гэта вельмі зьмястоўная і добрая газэта! Першыя выданьні былі больш па ангельску і таму я паставіўся абыякава. Цяпер гэта тое, што мне падабаецца і таму хачу газэту атрымоўваць... Віншую ды жадаю моцных сіл як найдаўжэй выпускаць газэту... Далучаю ахвяру на выдавецкі фонд. Абымаю Вас і цалую, Ваш а. А.

*Дзякуем за вельмі прыемны і цікавы ліст. Таксама дзякуем за ахвяру. Жадаем шмат здароўя і ўсяго найлепшага!*

Дарагі й Вельміпаважаны Сп-ру Прускі!

Дзякую за перасланыя матэрыялы. "Дайджэст" становіцца ўсё больш цікавым і зьмястоўным часапісам. Добра было-б, каб яго можна было пашыраць таксама ў Беларусі, а ня толькі ў Замежжы. Якраз там патрэба незалежнае думкі найбольш балючая цяпер, калі гадунцы Сталіна захапілі ўладу ды намагаюцца ізноў загнаць Беларусь у каляніяльную залежнасьць ад маскоўскае імпэрыі.

Вельмі шкадую, што нельга было мне паехаць на Сустрэчу ў Кліўлендзе. Пасылаю ахвяру на выдавецкі фонд. З пашанаю, М. С.

*Дарагі М. С. дзякуем за гойную ахвяру і жадаем Вам многа здароўя і шчасьця.*

Паважаны Спадар Рэдактар!

Дзякую за газэту. Далучаю ахвяру на выдавецкі фонд.... Нядаўна вярнуўся з Эўропы. Пабываў у Маскве, Беларусі, Польшчы і Лёндане.

На Беларусі ў мяне засталася радня. Мая пакойная сястра мела дачку. Я ёй вельмі многа дапамагаў... Цяпер заехаў да яе і сустрэў яе сына, тыпічнага янычара. Ён мне пачаў даказваць, што ўсіх тых хто спрычыніўся да развалу Савецкага Саюзу трэба расстраляць, і што ўся бяда пачалася ад таго часу... І ён ведае, я так думаю, што мой бацька быў зьнішчаны бальшавікамі. Калі я пачаў выказваць маю думку, ён мяне назваў нацыяналістам і чалавекам адурманеным буржуазнай прапагандай.... Я сказаў яму, што я гарджуся сваім нацыяналізмам (яго і маё разуменьне гэтага тэрміну розныя) і хутка сабраўся, не пакідаючы нікому ніякіх падарункаў і грошай, ды падаўся ў Польшчу. Пры ад'езьдзе я сказаў ягонай маці, што не хачу мець нічога супольнага з усімі імі. Таксама сказаў, каб мне больш не пісалі, бо расейскае мовы ад цяпер я не разумею... Яны былі ашаломлены... Было шмат плачу і перапросінаў, але мне здавалася ўсё гэта няшчырым...

На днях атрымаў ад іх вельмі доўгі ліст (гэтым разам на беларускай мове) прачытаў яго і адаслаў назад зазначыўшы, што будучы беларускім нацыяналістам я нічога не хачу мець супольнага з інтэрнацыяналістамі...

Вось такія справы. Перапрашаю за доўгі, можа вельмі асабісты ліст, але напісаўшы яго мой розум прасьвятліўся і душа напоўнілася супакоем.

Дай Божа Вам добрага здароўя і шчасьця!

З Богам, астаюся С. М.

*Дзякуем за вельмі цікавы і нештодзённы ліст. За гойную ахвяру таксама дзякуем. Жадаем пазбыцца празьмернае злосьці і напоўніць душу поўным супакоем, а ўсё астальное ўладзіцца само сабою.*

В. Паважаны Спадар Рэдактар!

Ужо больш году атрымліваю Вашу цікавую газэту, а ніяк ня мог сабрацца, каб выслаць Вам ахвяру на выдавецкі фонд. Цяпер вось урэгулёўваю задоўжанасьць...

Нечакана пачуў, зусім выпадкова, што на Захадзе працуюць некалькі кампютарных банкаў па зборы дакладных вестак пра розных антыбеларусаў і чужых агентаў, што сёньня пануюць на Беларусі. Ці Вам пра-гэта ведама, а калі так, дык чаму пра гэта ніхто нічога ня піша?.

Прымайцеся пры добрым здароўі ды плённа працуйце на дабро нашага няшчаснага і абалваненага народу! З пажаданьнямі, Я. Ш.

*Дзякуем за памяць пра газэту і ахвяру на выдавецкі фонд. Адносна кампютарных банкаў, весткі да нас даходзяць, але, відаць, як у такіх выпадках робіцца, ніхто нічога канкрэтна ня кажа. Ужо не сакрэт, што людзі, якія зьнішчаюць на Беларусі гістарычную сымволіку, мову, школьніцтва, прэсу, культуру і г. д., раней ці пазьней панясуць суровую адказнасьць. Трэба памятаць, што мы жывем у амаль 21-м стагодзьдзі...*

# Даже за псевдонимами история вас найдет

Лукашенко и референдум — беру смелость утверждать, что эти два слова для моих сверстников (уже завершающих свою активную общественную деятельность) и следующего поколения белорусов, являются трагическими. Никто не может возразить против тезиса, что жизнь — это борьба. При этом людей разумных мучают вопросы: бороться за что и против кого? Рушились государства и даже цивилизации, когда ответы на эти вопросы формулировались с точки зрения интересов диктатора, вопреки интересам народа, нации, государства.

Любому, даже неискушенному в политике человеку совершенно очевидно, что проект «конституции Лукашенко» — это диктатура для белорусов, это режим, какого в нашей истории еще не было. Очень жаль, что оголтелая, лживая пропаганда, которая идет от средств массовой информации, подчиненных Лукашенко, полностью одурманивает умы наших людей. Можно только сказать этим верным слугам-пропагандистам: даже за псевдонимами вас история найдет.

Не понимаю некоторых знакомых мне людей (Антоновича, Абрамовича и других) — за какие такие подачки со стола власть имущих они так цинично пропагандируют диктатуру?

Неужели нельзя понять, что сегодня получаемые блага за «верную службу» — это горе для потомков? Неужели так трудно понять, что диктатура после «победного референдума» — это власть диктатора не на один год, это муки и горе для нового поколения.

**СВАБОДА** **Георгий ТАРАЗЕВИЧ**

# Лебедзь на «беларускім фронце»

**Сакратар Савета бяспекі РФ Аляксандр Лебедзь у мінулую пятніцу сустракаўся з прэзідэнтам Лукашэнкам у Віскулях.**

А няпрэзднадні, у чацвер, Лебедзь у размове па «прамой лініі» з чытачамі «Комсомольской правды» заявіў: *«В Белоруссии нет фашизма. Лукашенко деятельный, серьезный, энергичный человек. Мне нравятся такие люди».*

Матэрыялы гэтай «прамой лініі» публікуюцца ў «КП» сёння, 17 верасня.

**Б.П.**

*ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ*

Даводзіцца да ведама, што ЗАПІСЫ, кніга № 22 за 1996 год ужо друкуецца. Гэтае выданьне "Запісаў" прысьвячаецца Васілю Быкаву. У кнізе ўпершыню друкуецца беларускі пераклад «Песьні пра зубра» зроблены Н. Арсеньневай. Каб набыць гэтую кнігу трэба зьвяртацца ў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва: 230 Springfield Ave. Rutherford, NJ. 07070.




Лука стараецца кіраваць у "сьветлую бальшавіцкую будучыню"...




## Ці Вы прыслалі ахвяру на "Беларускі Дайджэст"?